 




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

25 жніўня 2000 года

№ 34 (279)

Цана ў розніцу 80 рублёў

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Настаўнікам усё выплацілі

МАЛАДЗЕЧНА. Загадчык аддзела адукацыі гарвыканкома **Уладзімір Ляговіч** гаворыць, што днямі настаўнікі атрымалі аванс за жнівень.

Да навучальнага года праводзіліся рамонтныя работы у школах горада. Інжынер–будаўнік аддзела адукацыі **Валянціна Канапліцкая** ўпэўненая, што ўсе работы, што запланаванае да пачатку навучальнага года яны выканаюць. Работы праводзілі будаўнічыя арганізацыі горада. Толькі ў СШ №12 справіліся ўласнымі сіламі (летась праводзіўся капітальны рамонт, а на класы і калідоры сродкаў не выдзялялі).

Тым часам, у школах горада з'явіліся аб'явы, у якіх бацькоў запрашаюць прыйсці... на ўборку класаў.

**Аддзел інфармацыі.**

### Выклік «Макдональдсу»

МЯДЗЕЛ. Пасля рамонту адкрылася дзіцячае кафэ "Ласун". Стала вельмі светла, утульна. З'явілася і халадзільнае абсталяванне для продажу "пінгвінаўскага" марожанага, з Мінска яго прывозяць 9 гатункаў. Ёсць і тэлевізар з відэамагнітафонам – ганяюць "мульцікі". Дзеці вельмі задаволеныя.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Гарачая вада з'явіцца 1 верасня

МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе больш за тыдзень няма гарачай вады. Цяпер, як звычайна ў гэтую пару, праводзіцца апрасоўка – трываласць труб правяраюць шляхам пуску вады пад вялікім ціскам. За адным разам праводзіцца рамонт цеплатрасы.

Дырэктар Маладзечанскіх электрасетак **Сяргей Сарычаў** сказаў, што гарачая вада ў кватэрах горада па плане з'явіцца 1 верасня. Зрэшта, работнікі электрасетак пастараюцца падключыць ваду на пару дзён раней, "каб дзеці маглі памыцца перад школай". Але гэта будзе магчыма, калі не здарыцца парываў труб.

**Аддзел інфармацыі.**

### Старэйшаму ў Канцінентах – 95 год

МЯДЗЕЛ. У жніўні старэйшаму з ветэранаў другой сусветнай **Францу Кумішчу** споўнілася 95 год.

У сваёй вёсцы Канціненты ён быў знакаміты тым, што добра танцаваў, пры Польшчы браў прызы на конкурсах.

Гаспадарку вёў да 90 год. Мае ўнучку, праўнучку. І цяпер валодае сякерай, рамантуе канёк на даху.

Старшыня сельсавета ўручыў доўгажыхару грашовы падарунак, работнікі культуры наладзілі невялічкі канцэрт.

**Альберт КУМІШЧА.**

### ЖБВ не зможа плаціць кампенсацыі

МАЛАДЗЕЧНА. Заводу жалезабетонных вырабаў цяжка будзе выплаціць дапамогі пры скарачэнні, лічыць дырэктар **С. Бука**.

Цяпер на заводзе працуе 241 чалавек. А на асноўным канкурэнце – ААТ "Маладзечнажалезабетон" – 153 чалавекі пры аднолькавых аб'ёмах вытворчасці на абодвух прадпрыемствах.

Учора на пасяджэнні гарвыканкома С. Бука сказаў, што з–за таго, што вытворчыя магутнасці выкарыстоўваюцца на 30%, трэба звальняць 10–20 чалавек.

Таму, калі нехта з рабочых дапусціць парушэнні ці не будзе спраўляцца са сваімі абавязкамі, то яго звольняць неадкладна.

**Аддзел інфармацыі.**

**■ ПА СТАНЦЫІ МАЛАДЗЕЧНА**



**29 жніўня прыгарадны цягнік Крулеўшчына–Паставы ідзе да станцыі Варапаева і назад.**

**28 жніўня адмененыя электрацягнікі адпр. у Мінск 13.41 і прыб. з Мінска 14.44**

**31 жніўня адмененыя электрацягнікі адпр. у Мінск 13.41 і прыб. з Мінска 13.49**

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 26 жніўня

**Мінск**



**11 - 14°С** (уначы)
**17 - 19°С** (удзень)

**Вільня**



**10°С** (уначы)
**18°С** (удзень)

Нядзеля, 27 жніўня

**Мінск**



**10 - 11°С** (уначы)
**17 - 18°С** (удзень)

**Вільня**



**6°С** (уначы)
**21°С** (удзень)

# На Маладзечаншчыне гарэлі дахі

**У мінулыя выхадныя рэгіён закранула стыхія: ліўневыя дажджы, ураганныя вятры, буйны град...**

МАЛАДЗЕЧНА. У адным з дамоў прыватнага сектара горада ад удару маланкі загарэўся дах, яшчэ ў адным доме сарвала шыфер. Ветрам паваліла каля дзесятка дрэў.

У раёне 7 дамоў пацярпела ад дрэў, што ўпалі, а ў Мароськах згарэла паветка, дзе была тона сена.

Сума ўрону па горадзе і раёне ацэньваецца ў 4,2 мільёна рублёў.

ВІЛЕЙКА. Больш за ўсіх пацярпеў Асіпавіцкі сельскі савет. 2 дрэвы ўпалі на жылыя дамы, абясточана 10 населеных пунктаў. У аўторак усе электраліній адноўленыя.

У горадзе дзе–нідзе не вытрымалі ліўня ненадзейныя дахі, дамы ў выніку "прамоклі".

Па папярэдніх дадзеных, стыхія выцягнула з раённага бюджэту 3 мільёны рублёў.

ВАЛОЖЫН. У раёне пацярпела 7 жылых дамоў і 3 хлявы – пашкоджаныя дахі. У Вішнеўскім лясніцтве вецер змёў 20 гектараў лесу.

У горадзе пашкоджанняў не зафіксавана.

МЯДЗЕЛ. У мясцовым штабе ГА сцвярджаюць, што стыхія Мядзельшчыну абмінула. Толькі ў раёне на 15 хвілін адключылася адна з ліній электраперадач.

Хаця субота адзначылася тут моцнымі навальніцамі. Як паведамляе наш уласны карэспандэнт **Алесь Высоцкі**, у Крывічах у дом па завулку Энгельса трапіла маланка. Спаліла дах, дасталася і электрашчыту. Добра яшчэ, што гаспадары не спалі (а было ўжо каля дванаццатай ночы) і выклікалі пажарных. Тыя хутка прыехалі.

АШМЯНЫ. На станцыі Ашмяны некалькі прыватных дамоў патрабуюць для рамонту каля 80 лістоў шыферу.

СМАРГОНЬ. Камунальныя службы не зарэгістравалі зваротаў ад насельніцтва з гэтай нагоды.

**Юрый КАРПІЦКІ, аддзел інфармацыі.**



Фота Юліі ВАНСЛАЎ.

Гэтае немаленькае дрэва вецер паваліў у Залінейным раёне Маладзечна.

# Колькі каштуе сабраць дзіця да школы?

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду карэспандэнт "РГ" пацікавіўся цэнамі на школьныя прылады на рынках і ў магазінах горада.**

### Школьны базар

Назва гаворыць сама за сябе. Выбар канцтавараў тут найбольшы. Ёсць дэфіцытныя ў іншых месцах агульныя сшыткі: 48 лістоў – 223-272 рублі, 96 лістоў – 393-516.

З пункту гледжання "цана – якасць", напэўна, цэны на "драбязу" (ручкі, алоўкі, сшыткі) аптымальныя.

### Рынкі

Апранаюць школьнікаў лепш на рэчавым рынку. Асартымент тут разнастайны, хаця тавары не ўсім па кішэні: туфлі – 10-20 тысяч, спартыўны касцюм для дарослых – 15-20 тысяч, дзіцячы – да 10, штаны – 10 тысяч, джынсы – ад 10 тысяч, касцюм мужчынскі – ад 30 тысяч, кашуля – 4-5,5 тысячы, кеды – 4-5 тысяч, красоўкі – 8-12 тысяч, дзіцячы спартыўны абутак – 2,5-5 тысяч.

Ёсць і канцтавары: сшыткі – 44 рублі, абкладкі для сшыткаў – 12 рублёў, для падручнікаў – 250-300 рублёў, просценькія пеналы – 200-800 рублёў, пластылін – 380 рублёў, фарбы – 900, дзённікі – 350-700 рублёў.

На калгасным рынку ёсць адзенне больш таннае, чым на рэчавым.

### Гандлёвы дом «Няміга–Маладзечна» і «Дзіцячы свет»

Канцтавары там ёсць, з адзеннем пытанняў няма. Першы магазін можа скласці канкурэнцыю рэчаваму рынку для старэйшых школьнікаў, другі – для малодшых. Прычым, у магазінах большасць тавараў айчыннай вытворчасці, а на рынках яны, у асноўным, імпартныя.

Спажывец тут мае поўную свабоду выбару. Для больш заможных бацькоў лепшы, на наш погляд, будзе рэчавы рынак, бо там ёсць тавары даражэйшыя (і лепшай якасці), чым згаданыя.

### Кнігарні

Сюды можна зайсці па канцтавары. Напрыклад, выбар стрыжняў у "Сучасніку" найлепшы (30–50 рублёў). У дастатку тут і розных альбомаў для малявання і чарчэння.

### Камерцыйныя гандлёвыя пункты

Амаль у кожным прадаюцца танныя алоўкі і шарыкавыя ручкі. Найтаннейшыя з іх каштуюць 25 рублёў.

У "спецыялізаваных" (кніжных) кіёсках ёсць сшыткі і дзённікі.

### Кіёскі «Белсаюздруку»

Канцылярскіх тавараў там багата, але цэны нашмат вышэйшыя.

Прапануем чытачу суб'ектыўную табліцу. Па 5–бальнай шкале мы выставілі сваю адзнаку гандлёвым пунктам горада па наступных крытэрыях: канцтавары (сшыткі, ручкі, алоўкі, альбомы, дзённікі і іншае), адзенне для малодшага і для старэйшага школьнага ўзросту. Атрымаўся пэўны рэйтынг наведвальнасці гандлёвых пунктаў.

| | Канцтавары | Адзенне мал. | Адзенне стар. | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Рэчавы рынак | 4 | 5 | 5 | 14 |
| ГД "Няміга–Маладзечна" | 5 | 4 | 4 | 13 |
| "Дзіцячы свет" | 5 | 5 | 3 | 13 |
| Калгасны рынак | 3 | 4 | 4 | 11 |
| Школьны базар | 5 | – | – | 5 |
| Кнігарні | 4 | – | – | 4 |
| Камерцыйныя г/п | 3 | – | – | 3 |
| Кіёскі "Саюздруку" | 1 | – | – | 1 |

Па нашых падліках, на экіпіроўку малодшага школьніка патрэбна выкласці ад 50 тысяч, старэйшага – ад 100 тысяч.

Таксама ў Маладзечне, акрамя школ, ёсць сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы і філіялы мінскіх ВНУ. Тады, у некаторых выпадках, да гэтай сумы трэба дадаць сотню–другую тысяч рублёў (а то і болей) непасрэдна за навучанне.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

P. S. Калі ўзяць гарады гродзенскай часткі рэгіёна, выбар, асабліва што датычыцца адзення і абутку, лепшы ў Смаргоні. Танныя тавары можна знайсці ў Ашмянах: штаны – 3–4 тысячы, рукзак за 4 тысячы, але па якасці яны горшыя за смаргонскія, а тым больш, за маладзечанскія.

Ручак і алоўкаў у камерцыйных кіёсках хапае, але яны хоць ненамнога, але даражэйшыя (самыя танныя каштуюць 50–80 рублёў). У магазінах асноўная доля адзення – нізкай якасці. Гэта адразу рэжа вока маладзечанскаму жыхару.

Але не скажаш, што чагосьці не хапае. Купіць можна ўсё неабходнае. Асноўная праблема ў маленькіх гарадах – дзе ўзяць грошы на тавары, бо заработкі асноўнай часткі жыхароў яшчэ ніжэйшыя, чым у маладзечанцаў.

 

# Вёска Дружная адзіная ў краіне мае нямецкі вятрак

**МЯДЗЕЛ. У мінулую суботу ў вёсках Занарач і Дружная нямецкую мову можна было пачуць ці не часцей, чым родную. А журналістаў дакладна было больш з Нямеччыны, чым з Беларусі. З замежжа прыехалі каманда тэлеканала ARD (гэта як бы тамтэйшае ОРТ), прадстаўнікі некалькіх радыёстанцый, газет, часопісаў. Усе госці сабраліся на адкрыццё першай у рэспубліцы ветраэнергетычнай установкі і асвячэнне новай царквы.**

Падчас другой сусветнай нямецкія войскі спалілі праваслаўны храм у вёсцы Занарач. А ў 1994 годзе было пачатае будаўніцтва новага. Атрымаўся прыгожы, дыхтоўны храм. А дапамаглі яго будаваць евангелічная царква зямлі Паўночная Рэйн–Вестфалія (яе кіраўнік – біскуп **Манфрэд Зорг** – з дэлегацыяй прыбыў на асвячэнне храма) і мясцовы калгас (старшыня **Антон Стома**). Па бласлаўленні мітрапаліта Філарэта царкву асвячаў айцец **Ігар Карастылёў**. Мясцовая бабулька так апісала цяперашнія стасункі з немцамі:

– Яны нас вельмі любяць, і мы іх любім. А што ў вайну было – ну, што тое ўжо ўспамінаць, яно ўжо прайшло.

Усяго за некалькі соцень метраў ад царквы, па дарозе ў вёску Дружная, узвышаецца вятрак. Пабудаваны ён на ахвяраванні нямецкіх грамадзян. Па ініцыятыве арганізацыі "Дамы замест Чарнобыля" у Германіі знайшлося больш за дзве з паловай тысячы ахвотнікаў выдаткаваць на будаўніцтва ўстаноўкі свае грошы (а каштуе яна 400 тысяч нямецкіх марак). Вышыня ветрака – 50 метраў. Мяркуецца, штогод ветраэнергетычная ўстаноўка будзе даваць 400 тысяч кілаватгадзін электраэнергіі. Зімой больш, чым у іншы час: вятры мацнейшыя. Абслугоўваць вятрак будзе мясцовы жыхар – **Васіль Назарэнка**. Ён папрактыкаваўся два тыдні ў Нямеччыне. Там шмат такіх установак. Акупляецца яна за 8 год. Энергія з нашага ветрака ідзе ў агульную электрасетку, а грошы ад яе продажу "ЭкаДом" – беларускі партнёр нямецкай арганізацыі – будзе накіроўваць на ажыццяўленне гуманітарных праектаў для чарнобыльскіх перасяленцаў, а ў тым ліку, збіраюцца пабудаваць новую бальніцу ў Занарачы.

На адкрыццё ветраэнергетычнай установкі прыйшло шмат афіцыйных асоб. Быў і пасол ФРГ у Беларусі пан **Вінкельман**. Немцы ў прамовах гаварылі, што вятрак – гэта не толькі карысная пабудова, а і пэўны сімвал: людзі, якія пацярпелі ад атамнай энергетыкі, цяпер змогуць карыстацца чыстай энергіяй ад самой прыроды. А калі будзе дастатковае фінансаванне, то, можа, у наступным годзе вырасце паблізу яшчэ адзін вятрак.

Такія бэджы насілі на свяце не толькі дзеці і моладзь, можна было ўбачыць такі і ў людзей паважанага ўзросту.

Пасля адкрыцця ўсіх запрасілі на свята ў вёску Дружная. Пабудаваная яна нямецкімі валанцёрамі для перасяленцаў з забруджаных Чарнобылем тэрыторый. Ёсць там ужо 30 дамоў, і будаўніцтва працягваецца. Немцы падрыхтавалі свята са сваім каларытам. Вясковую плошчу ўпрыгожылі шарыкамі, папяровымі ветрачкамі (праўда, хутка яны перайшлі ў рукі нашых дзяцей). Быў канцэрт, былі і пачастункі. Дарэчы, немцы адмовіліся ад паслуг мясцовага гандлю, і таму самымі моцнымі напіткамі на свяце былі кава ды вада.

А ўвесь гэты праект – вёску Дружная і ветраэнергетычную ўстаноўку – Сусветная выстаўка ЭКСПА-2000 у Гановеры адзначыла як добры прыклад міжнароднага супрацоўніцтва на ўзроўні грамадскіх арганізацый.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся Высоцкага.

Вятрак за некалькі дзён да адкрыцця.

## Салдацкая пошта

# Вестачкі ад салдат з Краснага



**Павел Ермаковіч, радавы. Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 72б, 24.**

У часці знаходжуся нядаўна, 30 ліпеня прымаў прысягу. Да гэтага праходзіў курс маладога байца. Было цяжкавата з непрывычкі. Лічу, паўтара года – даволі вялікі тэрмін, можна было толькі год служыць.

Прывітанне маці, дзяўчыне Наташы.

Сябру Дзянісу Магазіннікаву: напішы, як прайшла прысяга.



**Дзмітрый Ігнатовіч, радавы, пільшчык. Маладзечна, вул. Драздовіча, 1, 77.**

Адгуляў на праводзінах у Лёшы Арла і не гадаў, што будзем разам служыць. Ён у пачатку мне вельмі дапамагаў.

У арміі стаў больш сур'ёзны. Цяпер ведаю, што змагу пражыць без мамы і без таты, хаця лепш з імі.

Прывітанне родным і блізкім: бацькам, сястры Анжэле.

Сябру Алегу Савенку жадаю спакойнай службы ў пагранвойсках. Прывітанне Юрыю Драбінчуку, Сяргею Гурновічу, Аксане Касцюк.

Прызыўнікам: будзе магчымасць, прасіцеся служыць у Краснае. І не важна, што тут войскі неэлітныя.



**Андрэй Салагуб, радавы, электрык-акумулятаршчык. Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 73. 44.**

Гарачае прывітанне жонцы Вользе.

Дачцы Алене: расці вялікая і прыгожая!

Прывітанне бацькам, родным і блізкім. Служба ідзе добра, нядаўна былі на стрэльбішчы, але дадому хочацца. Цяпер настрой крыху павышаецца, бо хутка абед. Новы Год планую сустрэць дома, чакайце зімой у адпачынак!



**Міхаіл Адзінцоў, радавы, майстар-такелажнік. Маладзечна, вул. Ф. Скарыны, 43, 11.**

Прывітанне каханай Наташы: я хутка вярнуся!

Сябру Аляксандру Стасевічу, які толькі прызваўся: паўтара года пройдуць хутка, гэта не такі вялікі тэрмін. Служы і не "падкачай"!

Мамачцы: я цябе люблю, ты мой самы блізкі чалавек!



**Аляксей Арлоў, малодшы сяржант, камандзір аддзялення кансервацыі. Маладзечна, вул. Драздовіча, 1, 5.**

Прывітанне бацькам, дзяўчыне Машы.

Брату Дзмітрыю: вучыся, як мага лепей, каб на наступны год змог паступіць у ВНУ і не пайсці ў армію.



**Лінэл Аганесян, радавы, электрык. Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 121, 49.**

Да службы закончыў 1 курс мінскай недзяржаўнай ВНУ, але раптам узнікла жаданне паслужыць разам са сваім прызывам. На трэці дзень, як аказаўся ў часці, аб рашэнні пашкадаваў. Але праз 3-4 месяцы ўсё стала на свае месцы. Адслужыў паўгода.

Пятніца, 13 ліпеня 2001 года, стане самым шчаслівым днём у жыцці. У той дзень надыдзе "дэмбель"!

Прывітанне бацькам, блізкім і родным.

Віншую стрыечнага брата Яна Гаўрыленку з вяселлем! Жадаю шчаслівага сямейнага жыцця і паболей дзяцей.

Ігар Носаў з Радашковічаў, адгукніся! Пішы ў часць 52242 РТОіХ.



**Дзмітрый Шэмет, радавы. Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 72, 51.**

Усім хлопцам: не бойцеся ісці ў армію, няма тут нічога страшнага. Першыя два тыдні службы прайшлі нармальна.

Прывітанне маці Людміле Іванаўне, родным, блізкім сябрам.

Аднагрупнікам з групы 1-Э Маладзечанскага палітэхнікума: мы яшчэ ўбачымся!

Былому класнаму кіраўніку Лідзіі Рухлі маё прывітанне.

**Міхаіл Матусевіч, яфрэйтар, слесар. Барысаўскі раён, вёска Семяньковічы.**

Бацькам: на жаль, да Новага года звольніцца, хутчэй за ўсё, не атрымаецца. Хаця добрая навіна для вас ёсць: у канцы жніўня – пачатку верасня прыеду ў кароткачасовае звальненне.

Сябру Віталю: напішы пра сябе, раскажы, дзе служыш.

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

## Адна надзея – на немцаў

МЯДЗЕЛ. Цяжкую хваробу знайшлі ўрачы ў дзяўчыны, выпускніцы школы Мядзела, – лейкемію. Дактары з Мінска сказалі, што вылечыць не змогуць. Бацька звярнуўся па дапамогу да сяброў з абшчыны Хюльхорст (зямля Рэйн Вестфалія ў Германіі). Тыя праінфармавалі мясцовыя прадпрыемствы, пайшлі публікацыі ў тамтэйшых газетах. Цяпер дзяўчына з бацькамі ў Германіі, пачынаецца лячэнне. А на яго трэба некалькі дзесяткаў тысяч нямецкіх марак.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма», жнівень

**Вялікая зала**

25–27 "Брат-2" (прэм'ера), Расія

29 жніўня – 3 верасня "Усход – Захад", Францыя–Расія, драма 16–00, 20–00

"Хто я?", Ганконг–ЗША, Джэкі Чан, камед. баявік 14–00, 18–00, 22–00

**Для дзяцей**

25 – **"Сёмы маленькі брат"** (мульт.)

26 – **"Золатавалоска і залатая крэпасць"**, ЗША

27 – **"Каменьчык і пінгвін"**, ЗША (мульт.)

29 – **"Вундэркінд"**, Польшча

30 – **"Прыгоды Дага"**, ЗША (мульт.)

31 – **"Краіна малпаў"**, Францыя

Пачатак аб 11–й гадзіне кожны дзень.

## ■ ДНІ



25 жніўня – **90 год** з дня нараджэння **У. Корбана** (1910–1971), беларускага паэта-байкапісца, сатырыка

27 жніўня – **160 год** таму (1840) у маёнтку Горы-Горкі Магілёўскай губерні **заснаваная земляробчая школа**, будучая Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія

# Міністэрства па надзвычайных сітуацыях у гасцях у «Зорнага»

**МАЛАДЗЕЧНА. Днямі ў санаторыі (на лета ён, зрэшты, ператвараецца ў дзіцячы аздараўленчы цэнтр) «Зорны», што пад Радашковічамі, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях наладзіла свята. У госці да выхаванцаў летніка прыехалі госці з Мінска, не «як на пажар» пад'ехалі пажарныя машыны з Маладзечна («Мерседэс»!) і Радашковічаў.**

«Надзвычайшчыкі» і адміністрацыя «Зорнага» ўлічылі псіхалогію дзяцей, таму свята не атрымалася «дзеля галачкі». Увесь дзень удзельнікаў і гледачоў свята падбадзёрваў духавы аркестр Маладзечанскага пажарнага аварыйнавыратавальнага атрада (ПАВА). А ў асноўнай праграме было ўсё: расказ пра аварыйна-выратавальную службу, азнаямленне з пажарнай тэхнікай і пажарнатэхнічным аснашчэннем, спаборніцтвы каманд «Зорнага» у пераадоленні паласы перашкод, тушэнні вогнішча пры дапамозе вогнетушыцеляў і апрананні баявой амуніцыі.

Малодшым паказалі відэафільм пра пажары з прычыны дзіцячага свавольства, а старэйшыя бралі ўдзел у віктарыне і конкурсе малюнка на асфальце.



Камандзір радашковіцкай пажарнай аварыйна-выратавальнай часці №2 Сяргей Філановіч.



Ствол пажарнага рукава няпроста ўтрымаць у руках. Пажарны страхуе хлопца, каб той не паліваў гледачоў.

Паглядзелі прысутныя і някепскі канцэрт-конкурс на супрацьпажарную тэматыку. Скончылася ўсё ўрачыстай лінейкай з падвядзеннем вынікаў, уручэннем каштоўных падарункаў і ганаровых грамат. Зрэшты, была яшчэ дыскатэка да 23.00, выхаванцы летніка яе заслужылі.

Дзеці на свяце не сумавалі. А дырэктар «Зорнага» **Генадзь Пустаход** для гісторыі зняў усё на відэакамеру.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА

Удзельнік каманды РВАРа тушыць вогнішча ля стадыёна «Зорнага».

## Курсы валют НБ РБ

| | 17 жніўня | 24 жніўня |
|---|---|---|
| Долар | 845,00 руб. | 875,00 руб. |
| Нямецкая марка | 392,49 руб. | 400,03 руб. |
| Літ | 211,22 руб. | 218,80 руб. |
| Расійскі рубель | 30,47 руб. | 31,57 руб. |
| Злоты | 194,81 руб. | 201,57 руб. |
| ЕЎРА | 767,64 руб. | 782,38 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1000 – 1020 руб. | 1020 – 1050 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 16.08 | 23.08 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1480 | 1580 |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 5200 | – |
| Сасіскі, 1 кг | 1375 | 1404 |
| Селядзец, 1 кг | 847 | 825 |
| Рыс, 1 кг | 350 | 340 |
| Грэчка, 1 кг | 610 | 600 |
| Цукар, 1 кг | 465 | 460 |
| Алей, 1 л | 690 | 730 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 400 | 420 |
| Маянэз, 250 г | 150 | 160 |
| Кава "Пеле", 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 280 | 320 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 340 | 340 |
| Лімоны, 1 кг | 950 | 970 |
| Апельсіны, 1 кг | 540 | 550 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 300 | 280 |
| Капуста, 1 кг | 100 | 80 |
| Кавун, 1 кг | 200 | 200 |
| Дыня, 1 кг | 600 | 400 |
| Вінаград, 1 кг | 600 | 600 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 700 | 700 |
| Масла, 1 кг | 1600 | 1500 |
| Тварог, 1 кг | 450 | 450 |
| Малако, 1,5 л | 200 | 200 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 500 | 500 |
| Бульба, малое вядро | 400 | 350 |
| Морква, 1 кг | 200 | 100 |
| Маліны, малое вядро | 4000 | 3000 |
| Сліва, малое вядро | 1300 | 1200 |
| Альча, малое вядро | 1000 | 800 |
| Брусніцы, малое вядро | 6000 | 5000 |
| Агуркі, 1 кг | 250 | 200 |
| Памідоры, 1 кг | 380 | 300 |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | 150 |
| Грушы, 1 кг | 350 | 200 |

■ ЗДАРЭННІ

# З летніка ў Жодзішках работніцы везлі прадуктаў на 351 тысячу рублёў

**СМАРГОНЬ. 4 жніўня ў летніку "Арляня", што ў Жодзішках, скончылася другая змена. Работнікі адсвяткавалі падзею і сабраліся дадому.**

Ноччу пры выездзе з летніка машыну, у якой ехалі некалькі работнікаў, затрымалі работнікі міліцыі. У аўтамабілі знайшлі скрынкі з прадуктамі. Узбуджаная крымінальная справа, следства вядзе работнік пракуратуры Дзмітрый Карповіч.

Пракурорскія работнікі згадваюць, што выпадкі крадзяжу прадуктаў у "Арляняці" ужо здараліся. Апошні раз – летась. Зрэшты, тады былі дробязі: некалькі апельсінаў, пачак пячэння. Цяпер жа прадуктаў вывозілі столькі, што адзін толькі іх узважванне заняло паўтары гадзіны.

Найменняў прадуктаў было каля сарака. Запісаў зроблена больш – 55 (аднолькавыя прадукты знаходзілі ў некалькіх скрынях, а з прычыны таго, што працэс ўзважвання ішоў паслядоўна, то і такія прадукты запісваліся некалькі разоў). Сярод іншых былі 87 бляшанак шпротаў, 33 бляшанкі свіной тушонкі, 9 слоікаў штучнага мёду, 12 кілаграмаў разынак, 5 кілаграмаў цукерак "Мішка на Поўначы".

Пры больш дэталёвай праверцы дзейнасці "Арляняці" на складзе летніка выяўлена нястача ў 60,5 тысяч рублёў. Знайшлі і лішкі прадуктаў на 158 тысяч. Але ці належалі яны затрыманым, невядома.

Адбыўся ўжо і скандал. Некаторая інфармацыя трапіла ў мясцовую прэсу. Работнікі праваахоўных органаў сцвярджаюць, што старшыня райвыканкома Мікалай Кавалёў збіраў работнікаў міліцыі і пракуратуры і ўчыніў разнос з такой прычыны.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Прапануем чытачам выказаць сваё стаўленне да таго, што здарылася: ці распаўсюджаная гэта, на ваш погляд, з'ява і як з гэтым змагацца? Свае меркаванні вы можаце пакінуць на рэдакцыйным пэйджэры. Для гэтага патэлефануйце ў Маладзечне 060 або 30020 і пакіньце паведамленне для абанента "РГ".**

### Сур'ёзныя парушэнні ў дзіцячых аздараўленчых летніках

ГРОДНА. Шэраг сур'ёзных парушэнняў у арганізацыі харчавання школьнікаў у дзіцячых аздараўленчых летніках Гродзенскага, Іўеўскага, Лідскага, Ашмянскага і Шчучынскага раёнаў выяўленыя Камітэтам дзяржаўнага кантролю па Гродзенскай вобласці. Асноўныя з іх – парушэнне рэцэптуры прыгатавання ежы, недастатковае ўкладанне прадуктаў пры прыгатаванні страў, выкарыстанне пратэрмінаваных прадуктаў, фармальны кантроль медработнікаў за арганізацыяй харчавання дзяцей і іншыя.

Напрыклад, на складзе летніка «Дружба» Ашмянскага раёна падчас праверкі былі выяўлены лішкі свініны, курыных кумпячкоў, масла, рыбы, какавы, грэцкіх круп, пячэння, вафель, кававага напітку і сухіх вяршкоў на суму звыш за 78 тысяч рублёў.

Па выніках праверкі 26 чалавек з вобласці прыцягнутыя да адміністрацыйнай і 8 – да дысцыплінарнай адказнасці.

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

### Спецыялісты Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржаўнага кантролю правялі праверкі арганізацыі харчавання ў дзіцячых аздараўленчых летніках, размешчаных у Валожынскім раёне.

У дзіцячым аздараўленчым летніку "Палачанка" мінскага арэнднага прадпрыемства "Усход" (начальнік летніка Эдуард Грахоўскі) адпачывае 193 дзіцяці, у тым ліку, 80 дзяцей–сірот са школы–інтэрната Валожына. У выніку праведзенай праверкі выяўленыя лішкі прадуктаў на кухні пасля сняданку і абеду: малако згушчанае, 4 бляшанкі па 0,4 кг; кісель яблычны, 2 пачкі па 0,250 кг; алей, 0,5 літра; масла, 1,2 кг – на агульную суму 4,6 тысячы рублёў. На складзе ў ходзе выбарачнай праверкі прадуктаў выяўленыя лішкі кілбасы варанай "Малочная" у колькасці 1,5 кг на суму 3,0 тыс. рублёў.

Па выніках праверкі да дысцыплінарнай і матэрыяльнай адказнасці прыцягнута 3 чалавекі.

У дзіцячым аздараўленчым летніку "Мара" Мінскага камбіната хлебапрадуктаў (начальнік Таццяна Андрэева) у выніку правядзення пераліку прадуктаў, што знаходзіліся на кухні і ў падсобных памяшканнях харчаблока, выяўленая недастача фаршу для прыгатавання шніцэляў сечаных у колькасці 4 кг. У шэф–повара адсутнічала тэхналагічная карта на прыгатаванне шніцэля сечанага, якая пацвярджае набор і колькасць выпісаных бухгалтарам у дзённай ведамасці расходу прадуктаў. Устаноўлена завышэнне нормы расходу алею для смажання шніцэляў (агульная вага завышэння склала 580 грамаў), а таксама завышэнне нормаў закладкі яек у фарш у два разы (агульная колькасць завышэння склала 15 яек). Акрамя гэтага, ў абедзенным меню не ўказаная вага ні мяснога паўфабрыкату, ні вага гатовага вырабу.

Устаноўленыя лішкі пячэння "Аматарскае" у колькасці 1,5 кг.

Па выніках праверкі да матэрыяльнай адказнасці прыцягнута два чалавекі, да дысцыплінарнай – адзін.

**Дзіна ГРОМАВА, старшыня Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржаўнага кантролю.**

■ СПАЖЫВЕЦ

# Не аддавайце свой чэк

**МАЛАДЗЕЧНА. У таварыства абароны спажыўцоў паступіў званок ад жыхаркі горада. Яна купіла на рынку красоўкі. Праз тыдзень абутак парваўся.**

Жанчына знайшла прадаўца, узяла з сабой абутак, чэк і патрабавала вярнуць свае грошы назад. Прадавец забраў і чэк, і абутак, паабяцаў вырашыць пытанне на наступны дзень. Назаўтра спажыўцу аддалі назад красоўкі і адмовіліся вярнуць грошы. З–за таго, што ў жанчыны не было чэка, яе заяву ў таварыстве абароны спажыўца не зарэгістравалі.

Ведайце: чэк на законнай падставе забраць у вас ніхто не можа: гэта дакумент, які пацвярджае факт куплі і павінен заставацца ў спажыўца. Калі яго няма, даказаць сваю слушнасць можна будзе толькі ў судзе і з дапамогай сведкаў. А калі ў вас настойліва патрабуюць чэк, аддайце яго копію.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Незаконныя мабільнікі

СМАРГОНЬ. Пры аглядзе ў пункце пропуску «Каменны Лог» на беларуска-літоўскай мяжы аўтамабіля «Пежо», якім кіраваў грамадзянін Украіны, памежнікі Смаргонскага пагранатрада знайшлі 97 мабільных тэлефонаў і 20 зарадных прылад да іх. Кантрабандны груз быў схаваны пад сядзеннем кіроўцы. Згодна з ацэнкай, праведзенай у мытных органах, агульны кошт канфіскаванага склаў каля 3 мільёнаў рублёў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## Небяспечнае месца на вуліцы Молакава

ВІЛЕЙКА. У сераду, каля 11 раніцы, у трактара МТЗ з камбікормавага завода, які рухаўся па вуліцы Молакава ў бок плошчы Свабоды, адчапіўся прычэп. Паколькі ён працягваў адвольна каціцца, то знёс плот і ўрэзаўся ў веранду дома №11. У выніку поўнасцю знесеная адна і часткова пашкоджаная другая сцяна веранды. На шчасце, пажылы гаспадар дома не пацярпеў. Ужо праз гадзіну з дапамогай цягача і пад кіраўніцтвам прадстаўніка службы выратавання прычэп удалося выцягнуць.

Цікава, што некалькі год таму грузавы аўтамабіль урэзаўся ў суседні дом. Тады была праламаная сцяна. Пасля гэтага выпадку ўздоўж дома паклалі вялізныя камяні для засцярогі ад падобных здарэнняў.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

